I ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Ліпень 2014

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну



## З-за безграшоўя ўсе гульцы футбольнага клуба першай лігі «Рэчыца-2014» напісалі заявы аб сыходзе

стар. 7

**У Гомелі «па ўласным жаданні» звольнілі аж пяць суддзяў**

стар. 2

**Сталі вядомыя падрабязнасці ўжывання трыма гамельчукамі спайсу, у выніку чаго адзін з іх застаўся без вачэй**

стар. 4

**У Ветцы з асаблівай жорсткасцю забілі пенсіянерку за 50 кг бульбы**

стар. 7

# У Гомелі «па ўласным жаданні» звольнілі аж пяць суддзяў

***Суд Савецкага раёна Гомеля ў адзін дзень па загадзе Лукашэнкі №297 ад 26 чэрвеня застаўся без трох суддзяў, у тым ліку намесніка старшыні. Яшчэ раней, вясной 2014 года, быў затрыманы па падазрэнні ў карупцыйным злачынстве яшчэ адзін намеснік старшыні суда Савецкага раёна Гомеля – Юрый Жораў. Пакуль яго лёс невядомы.***

Згодна ж загаду з фармулёўкай «па ўласным жаданні» вызвалены ад пасады Сяргей Шаўструк, Сяргей Уласаў і намеснік старшыні суда Віктар Купрацэвіч.

Таксама «па ўласным жаданні» вызвалены ад пасады суддзя Гомельскага абласнога суда Аляксей Шамехін. Яго калега з Мазыра, намеснік старшыні раённага суда Іван Анташук звольнены з пасады з фармулёўкай «у сувязі са здзяйсненнем учынку, несумяшчальнага са знаходжаннем на дзяржаўнай службе». Які менавіта ўчынак здзейсніў ужо былы суддзя – традыцыйна не паведамляецца.

Дарэчы, былыя суддзі суда Савецкага раёна не раз каралі мясцовых апазіцыянераў суткамі і штрафамі за «брудную лаянку» і «парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства».

Так, у сакавіку 2014 года суддзя Сяргей Шаўструк разглядаў адміністрацыйную справу ў дачыненні актывіста АГП Уладзіміра Шыцікава, які на дазволеным перад выбарамі ў мясцовыя Саветы пікеце трымаў плакат «Пуцінская Расія, ты звар'яцела». Суддзя прызнаў актывіста вінаватым у парушэнні парадку правядзення масавага мерапрыемства і пакараў арыштам на 10 сутак. Гэты ж суддзя ў 2011 годзе разглядаў адміністрацыйную справу за «дробнае хуліганства» у дачыненні актывіста кампаніі «Справаводства пабеларуску!» Ігара Случака.

Суддзя Віктар Купрацэвіч у 2011 годзе пакараў арыштам рэгіянальнага лідара АГП Васіля Палякова. Тады ж, восенню 2011 года, суддзя Сяргей Уласаў пакараў арыштам за знойдзеныя ў яго ўлёткі да «Народнага схода» грамадскага актывіста Іллю Міронава. Актывіст спрабаваў абскардзіць рашэнне раённага суду ў абласным, але суддзя Аляксей Шамехін (які зараз таксама звольнены «па ўласным жаданні») прызнаў судовую пастанову правамоцнай і не задаволіў скаргу.

*spring96.org*

# У Мазыры п'яным за рулём затрымалі начальніка мясцовай міліцыі

***Гаворка ідзе пра начальніка Мазырскага РАУС палкоўніка міліцыі Юрыя Красюка.***

Міліцыянт на прыватным аўтамабілі ў непрацоўны час быў затрыманы супрацоўнікамі абласнога ўпраўлення Дзяржаўтаінспекцыі за кіраванне ў стане алкагольнага ап'янення і дастаўлены ў Гомель для правядзення агляду.

Хоць літаральна ў сакавіку гэтага года ў інтэрв'ю рэгіянальнай газеце «Жыццё Палесся» пад назвай «Бяспека грамадзян — наша галоўная задача» палкоўнік міліцыі даваў справаздачу аб тым, што «выяўленне вадзіцеляў, якія знаходзяцца за рулём выпіўшы, і выдаленне з праезнай часткі п'яных пешаходаў — адна з асноўных задач супрацоўнікаў дарожна-патрульнай службы», а «дарожна-транспартныя здарэнні, удзельнікі якіх у момант іх здзяйснення былі выпіўшы, вылучаюцца сваёй цяжкасцю».

Палкоўнік Красюк адхілены ад пасады — прынамсі, часова.

*Паводле auto.tut.by*

# Пад Гомелем зніклі дзяўчынкі 4 і 6 гадоў: цела адной з іх знайшлі на беразе Сожа

***4-гадовая Дар'я і 6-гадовая Каця зніклі напярэдадні днём у Веткаўскім раёне. Яны знаходзіліся на адпачынку ў лесе, разам з прыёмнымі бацькамі. Бацькі былі ў намёце, а дзяўчынкі сышлі ў лес з двума сабакамі. Потым сабакі вярнуліся, але без дзяцей.***

Цела адной з зніклых дзяўчынак раніцай 30 ліпеня знайшлі на беразе Сожа ў Гомельскім раёне. Мяркуюць, што яна патанула.

Цела дзяўчынкі вынесла на касу, дзе яго знайшоў мясцовы рыбак. Пакуль не ўстаноўлена, гэта старэйшая або малодшая з дзяўчынак. Пошукі другой працягваюцца.

Да надыходу цемры 29 ліпеня вадалазы абследавалі некалькі вадаёмаў. Валанцёры з пошукава-выратавальнага атрада «Симуран» выявілі каля вады мноства дзіцячых слядоў.

*Tut.by*

# Вынесены абвінаваўчы прысуд па нашумелай аварыі на аўтобусным прыпынку ў Рэчыцы

***У Рэчыцкім раённым судзе сёння завяршылася слуханне крымінальнай справы па трагічнай аварыі, у якой пацярпелі пяць чалавек, з іх трое загінулі.***

Суд прызнаў кіроўцу вінаватым у парушэнні правілаў дарожнага руху ў стане алкагольнага ап'янення, што пацягнула па неасцярожнасці смерць траіх чалавек, а таксама прычыненні цяжкіх цялесных пашкоджанняў двум асобам. Ён таксама прызнаны вінаватым у наўмысным пакіданні пацярпелых ў небяспецы.

Суд першай інстанцыі прысудзіў яго да 10 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі агульнага рэжыму.

Задаволеныя матэрыяльныя пазовы пацярпелых аб кампенсацыі маральнай шкоды. Асуджанаму трэба будзе выплаціць усяго больш за мільярд рублёў. Прысуд не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны бакамі працэсу.

ДТЗ адбылося ў ноч з 19 на 20 сакавіка гэтага года. «Крайслер-Пацыфік», якім кіраваў 28-гадовы мясцовы жыхар і які рухаўся па вуліцы Савецкай, выехаў на прыпынак грамадскага транспарту «Вуліца Фрунзе», дзе знаходзіліся людзі.

Машына літаральна змяла павільён на прыпынку. На месцы трагедыі загінулі двое мясцовых жыхароў 27 і 48 гадоў. У рэанімацыі памёр трэці — 26 гадоў. Яшчэ два чалавекі — хлопцы 19 і 20 гадоў — атрымалі сур'ёзныя калецтвы.

У ходзе расследавання было ўстаноўлена, што, перш чым сесці за руль, кіроўца ўжываў спіртныя напоі ў кампаніі двух сяброў, якія ў час ДТЗ знаходзіліся ў машыне ў якасці пасажыраў. У судзе яны праходзілі сведкамі па гэтай справе. Падчас руху па горадзе абвінавачаны перавысіў хуткасць і страціў кіраванне, выехаўшы на паласу сустрэчнага руху. Аднак, распачаўшы манеўр, не змог справіцца з сітуацыяй і заехаў у прыпыначны пункт.

У сваім апошнім слове абвінавачаны папрасіў прабачэння ў сваякоў загінулых, а таксама ў двух пацярпелых— маладых людзей, якія ў выніку аварыі атрымалі сур'ёзныя траўмы. Аднаму з іх была ампутаваная кісць рукі. Бок дзяржаўнага абвінавачвання (раённая пракуратура) запрасіў максімальны тэрмін пакарання, прадугледжаны дадзенымі артыкуламі, — 10 гадоў пазбаўлення волі. На тым жа настойвалі і пацярпелыя.

*nn.by*















## Маладая жанчына ў Гомелі спрабавала зрабіць суіцыд, скочыўшы з моста на вачах адпачывальнікаў

***27 ліпеня прыкладна ў 16 гадзін маладая жанчына зрабіла спробу самагубства, скочыўшы з фермы пешаходнага моста цераз раку Сож з вышыні больш як 30 метраў. У гэты час на пляжы каля моста знаходзіліся дзясяткі адпачывальнікаў, якія сталі міжвольнымі гледачамі.***

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар Гомельскага абласнога ўпраўлення МНС Руслан Габрылёў, маладая жанчына засталася жывая, яе забралі ў бальніцу для агляду.

На ферме моста яна прастаяла каля 20 хвілін, а затым кінулася ў ваду. У гэты час на рацэ быў катэр Асвода, супрацоўнікі якога своечасова аказалі дапамогу жанчыне.

Вядома, што ёй 32 гады, зарэгістраваная ў аграгарадку Мічурынскі Гомельскага раёна. Аб прычынах ўчынку невядома.

*nn.by*

## У Рэчыцы знойдзена цела 19-гадовага мясцовага жыхара: яму адрэзала галаву таварным цягніком

***Каля 3 гадзін ночы 16 ліпеня абходчык на станцыі Рэчыца знайшоў пад пешаходным мастом абезгалоўленае цела маладога чалавека. Верагодна, хлопец трапіў пад таварны цягнік.***

Як паведамілі ў гомельскім аддзеле ўнутраных спраў на транпарце, загінулы — мясцовы 19-гадовы жыхар, працаваў на заводзе металічных вырабаў. Абставіны смерці высвятляюцца, прызначаны экспертызы. За гадзіну-дзве да трагедыі на станцыі манеўравалі таварныя цягнікі. Калі саставы з'ехалі, абходчык знайшоў цела маладога чалавека.

*БелаПАН*

# Сталі вядомыя падрабязнасці ўжывання трыма гамельчуками спайсу, у выніку чаго адзін з іх застаўся без вачэй

***Новыя падрабязнасці ўжывання трыма гамельчукамі спайсу, у выніку чаго адзін з іх атрымаў цяжкія траўмы і быў пакалечаны, паведаміла праграма «Зона Х» тэлеканала «Беларусь 1» вечарам 22 ліпеня.***

Паводле звестак праграмы, у момант прыезду міліцыі пацярпелы смяяўся, спяваў песні і адказваў на ўсе пастаўленыя пытанні. Гэта прытым, што ў яго адсутнічалі вочныя яблыкі і быў поўнасцю парэзаны твар. Усе трое прызналіся праваахоўнікам, што ўжывалі спайс.

Як паведаміла раней упраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў МУС, 21 ліпеня каля 23 гадзін у міліцыю па спецлініі 102 паступіла паведамленне аб парушэнні грамадскага парадку на вуліцы Дакутовіча (прыватны сектар) у Гомелі. Паводле слоў таго, хто званіў, у двары суседняга дома бегалі голыя мужчыны і шумелі.

На месца здарэння прыбыла следча-аператыўная група Чыгуначнага РАУС і супрацоўнікі АМАП. У адным з пакояў указанага дома яны знайшлі хлопца 1991 года нараджэння. У яго былі выдалены абодва вокі, значна пашкоджаны вострым прадметам нос, шчака, вушы. Побач на ложку знаходзіліся два прыяцелі пацярпелага (1985 і 1993 гадоў нараджэння). Іх паводзіны былі адназначна ацэнены як вельмі неадэкватныя.

Пацярпеламу была выклікана хуткая медыцынская дапамога, якая даставіла яго ў найбліжэйшую медустанову. Яго прыяцеляў адвезлі ў райаддзел міліцыі для далейшага разбору.




Згодна з папярэдняй інфармацыяй, маладыя людзі сустрэліся каля 19 гадзін таго ж дня. Вырашыўшы павесяліцца ў кватэры аднаго з іх, яны набылі курыльную сумесь (спайс) і, хутчэй за ўсё, спажылі яе.

«Беларусь 1» паведамляе, што пацярпелы зараз знаходзіцца ў рэанімацыі. Яго жыццю нішто не пагражае, але зроку малады пазбавіўся назаўсёды.

Паводле інфармацыі афіцыйнага прадстаўніка ўпраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыі Крываногавай, дзеянні падазроных кваліфікаваныя па прыкметах складу злачынства, прадугледжанага п. 3, 9 ч. 2 арт. 147 КК (наўмыснае нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў спосабам, які носіць характар мучэння або катавання, групай асоб).

Пры аглядзе месца здарэння следча-аператыўнай групай канфіскаваны фрагменты шпалераў з рэчывам бурага колеру, драўляны завостраны брусок, разбіты шкляны градуснік, два папяровыя пакеты з рэчывам раслліннага паходжання.

Расследаванне крымінальнай справы пастаўлена на асабісты кантроль начальніка УСК па Гомельскай вобласці. Папярэдняе следства даручана групе найбольш дасведчаных следчых.

Супрацоўнікі ўпраўлення Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз па Гомельскай вобласці праводзяць прызначаныя падчас следства неабходныя экспертныя даследаванні, у тым ліку судова-медыцынскія, судова-біялагічную і хімічную экспертызы.

*БелаПАН*

# Жыхар Рэчыцкага раёна па-зверску забіў сяброўку, думаючы, што яна цяжарная ад яго

***Чарада шакавальных навін з Рэчыцкага раёна працягваецца. Не паспеў завяршыцца суд над кіроўцам, які смяротна траўмаваў трох чалавек і пакалечыў дваіх на прыпынку ў Рэчыцы, як пачынаецца новы судовы працэс. У раённы суд перададзена справа аб зверскім забойстве: малады чалавек, мяркуючы, што яго дзяўчына цяжарная, вырашыў з дапамогай забойства пазбавіцца ад дзіцяці.***

Аб цяжарнасці сяброўкі 20-гадовы малады чалавек даведаўся ад сваёй знаёмай. Палічыўшы дзіця для сябе лішнім клопатам, ён вырашыў пазбавіцца ад яго варварскім спосабам, а на дапамогу сабе паклікаў аднаго. Прыяцель падпільнаваў дзяўчыну ля пад'езда і пачаў збіваць, цэлячы ў жывот. Такім спосабам ён збіраўся забіць дзіця.

Аднак дзяўчына крычала так гучна, што на яе крык зрэагавала сігналізацыя аўтамабіля, які стаяў непадалёк. Нечаканы гук сігналізацыі спалохаў вылюдка, і ён схаваўся. Ішлі месяцы, а маладога чалавека працягвала турбаваць думка, што яго сяброўка нарадзіла ці цяжарная. Тады ён прыняў рашэнне забіць яе, прычым нават не даведаўся, ці нарадзілася дзіця. На дзень святога Валянціна ён запрасіў дзяўчыну з'ездзіць на дыскатэку ў сельскі клуб на машыне. Разам з памагатым яны адвезлі яе да вадаёма блізу Рэчыцы. Там малады чалавек збіў сваю ахвяру па галаве загадзя прыпасенай палкай. Ад удараў дзяўчына памерла на месцы. Ад цела паспрабавалі пазбавіцца, прывязаўшы да яго мяшок, набіты цаглінамі, і ўтапіўшы ў вадаёме.

Як высветлілася пазней, цяжарная дзяўчына не была.

*odsgomel.org*

# За хабар у 3000 даляраў затрыманы дырэктар прадпрыемства ў Гомелі

***Следчым упраўленнем УСК па Гомельскай вобласці па матэрыялах УБЭЗ УУС Гомельскага аблвыканкама распачата справа ў дачыненні да дырэктара філіяла «Упраўленне спецыялізаваных работ» ААТ «Гомельпрамбуд» па ч. 1 арт. 430 КК (атрыманне хабару).***

Ен быў затрыманы пры атрыманні хабару ў 3.000 даляраў. На працоўным месцы дырэктар атрымаў грашовыя сродкі ад прадстаўніка прыватнай фірмы за арганізацыю заключэння дагавораў на пастаўку ў адрас філіяла кабельнай і электратэхнічнай прадукцыі і выкананне абавязацельстваў па іх у частцы гарантаванай своечасовай аплаты.

Падазраваны змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання УУС Гомельскага аблвыканкама. Вырашаецца пытанне аб абранні меры стрымання.

*БелаПАН*

# Двое дзяцей выпалі праз маскітныя сеткі на вокнах у Гомельскай вобласці

***У мінулыя выходныя двое дзяцей выпалі з вокнаў шматкватэрных дамоў у Гомелі і пасёлку Чонкі Гомельскага раёна, паведамілі ў пракуратуры Гомельскай вобласці.***

У Гомелі двухгадовы малы застаўся з бабуляй і дзядулем, калі мама пайшла ў краму. Бабуля пакарміла дзіця і пайшла вынесці посуд.

У гэты момант малы змог забрацца на падваконне і абаперціся на маскітную сетку адкрытага акна на 3-м паверсе.

Хлопчык выпаў з аконнага праёму. Са шматлікімі траўмамі дзіця шпіталізаванае ў рэанімацыю абласной бальніцы.

У пасёлку Чонкі з вышыні другога паверха звалілася шасцігадовая дзяўчынка.

Цяжару яе цела таксама не вытрымала маскітная сетка, на якую яна абаперлася. З траўмамі дзяўчынка дастаўлена ў бальніцу.

У пракуратуры адзначылі, што гэта далёка не першы падобны выпадак траўміравання дзяцей. І ў гарачае надвор'е іх колькасць узрастае. Маскітныя сеткі, якія ўсталёўваюцца на вокнах, ствараюць толькі ілюзію бяспекі. Таму вельмі важна выключыць доступ маленькіх дзяцей да адкрытых насцеж вокнаў.

*Паводле БелТА*

# Каб сустрэць VIP-госцю з ААН, у Ветцы «асвоілі» грошай, якіх хапіла б на 15-кватэрны дом

***Сёлета у маі першы намеснік Генеральнага сакратара ААН Хелен Кларк ў рамках афіцыйнага візіту ў Беларусь наведала Ветку (райцэнтр Гомельскай вобл.).***

Каб сустрэць VIP-госцю з ААН, у Ветцы «асвоілі» грошай, якіх хапіла б на 15-кватэрны дом.

Райцэнтр салідна падрыхтаваўся да візіту VIP-госці. У прыватнасці, чакалася, што Хелен Кларк прыляціць на верталёце. Але ў Ветцы не было пляцоўкі для пасадкі верталёта, таму была праведзеная рэканструкцыя мясцовага стадыёна.

Аб падрабязнасцях падрыхтоўкі візіту і выдатках на дадзеную падрыхтоўку распавёў мясцовай прэсе старшыня Веткаўскага райвыканкама Андрэй Чарненка.

Паводле яго слоў, стадыён даўно меў патрэбу ў рэканструкцыі. Штуршком для рэканструкцыі паслужыла навіна пра візіт у Ветку намесніка Генеральнага сакратара ААН. «Літаральна за тыдзень нам ўдалося навесці парадак на стадыёне, — на яго рэканструкцыю зрасходавана больш за чатыры мільярды рублёў. Дарэчы, столькі каштуе пабудаваць 15-кватэрны дом», - адзначыў у інтэрв'ю Андрэй Чарненка.




На работах на стадыёне былі задзейнічаны каля ста чалавек з розных арганізацый і прадпрыемстваў, працавалі пяцьдзесят адзінак тэхнікі.

«Некаторыя цяпер спрабуюць нас крытыкаваць, маўляў, калі б не візіт Хелен Кларк, стадыён так і застаўся б без рэканструкцыі. Магчыма, але гаспадар, які паважае сябе, наводзіць парадак у доме перад тым, як запрасіць у яго гасцей», — падвёў вынік старшыня выканкама.

Застаецца дадаць, што намеснік Генеральнага сакратара ААН прыехала ў Ветку ўсё ж на аўтамабілі.

*Паводле odsgomel.org*

ГумНо СПАРТЫЎНАЕ

# З-за безграшоўя ўсе гульцы футбольнага клуба першай лігі «Рэчыца-2014» напісалі заявы аб сыходзе

***З-за хранічных фінансавых праблем адсутнасці зарплаты ўсе гульцы футбольнага клуба першай лігі «Рэчыца 2014» (былы «Ведрыч-97») напісалі заявы аб сыходзе, паведаміў галоўны трэнер каманды Аляксандр Бразевіч у звароце да балельшчыкаў.***

«На гэты момант сітуацыя такая, што на стале ў дырэктара ляжаць заявы на звальненне ад усіх футбалістаў каманды. Гульцы адмовіліся трэніравацца. Цалкам верагодна, што хлопцы адмовяцца ехаць на матч 1/16 Кубка Беларусі супраць «Граніта», — зазначыў настаўнік.

Паводле яго слоў, калі да канца тыдня не будзе ніякіх зрухаў, усе футбалісты сыдуць. «Я проста не змагу іх утрымаць. Калі я зараз наабяцаю, што ўсё будзе добра, а праз два тыдні і міністэрства, і гарадскія ўлады адмовяць у дапамозе, як мне глядзець у вочы хлопцам?» — растлумачыў Бразевіч.



Футбольны клуб знаходзіцца ў «вельмі цяжкай сітуацыі», канстатаваў ён. Каманда не мае права атрымліваць дзяржаўную падтрымку, «паколькі Міністэрства спорту адмаўляецца падпісваць наш план развіцця». Увесь першы круг клуб жыў толькі на ўласныя заробленыя сродкі.

«Міністэрства спорту аднойчы прыслала нам ліст з адмовай. Прычынай з'яўлялася тое, што «Рэчыца 2014» — гэта не новы клуб. Там было сказана, што гульцы і ўвесь персанал «Ведрыча-97» проста заявіліся пад новай назвай. А паколькі «Ведрыч-97» летась не зарабіў 20% ад уласнага бюджэту, г.зн. не выканаў указ прэзідэнта № 191, у дзяржпадтрымцы на наступны сезон яму адмоўлена», — паведаміў галоўны трэнер, падкрэсліўшы, што ФК «Рэчыца 2014» — новая юрыдычная асоба, зарэгістраваная ў пачатку 2014 года.

«На гэтым тыдні Міністэрства спорту павінна прызначыць дату пасяджэння, на якім будуць выслуханы прадстаўнікі нашага клуба. Я вельмі спадзяюся, што цвярозы сэнс пераможа і план будзе падпісаны… Але калі міністэрства зноў адмовіць, то павінен быць план «Б». Гэтым планам я бачу дапамогу з боку мясцовых уладаў… Няўжо мы горшыя? Няўжо ў Рэчыцы не знойдуцца грошы для выратавання адзінага спартыўнага клуба ў горадзе?» — гаворыцца ў звароце.

Фінансавыя праблемы зведваюць і іншыя клубы, у тым ліку вышэйшай лігі. Да прыкладу, 20 ліпеня футбалісты жодзінскага «Тарпеда-БелАЗа» выйшлі ў майках з надпісам «Ці патрэбны футбол у Жодзіне?»

*БелаПАН*

# У Добрушы аўтамабіль «ГАЗ» сарваўся з моста і зваліўся на прыпаркаваны ўнізе трактар

***У Добрушы 11 ліпеня аўтамабіль «ГАЗ-2705» сарваўся з моста цераз раку Іпуць.***

Як паведамляе УДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама, 26-гадовы кіроўца з-за няправільна выбранай хуткасці не справіўся з кіраваннем аўтамабіля, які зляцеў з моста і ўпаў на прыпаркаваны ўнізе трактар «ДТ-75», пасля чаго ўдарыўся аб жалезабетонную канструкцыю моста.

Вадзіцель аўтамабіля атрымаў цялесныя пашкоджанні і шпіталізаваны ў хірургічнае аддзяленне мясцовай бальніцы.

*БелаПАН*

## Пакуль злачынец гвалтаваў дзяўчыну, яго сябар фатаграфаваў працэс на тэлефон

***У пачатку ліпеня ў Навабеліцы (Гомель) міліцыянты затрымалі раней неаднаразова судзімага мужчыну, які згвалціў дзяўчыну ў Навабеліцкім лесе, у той час як яго сябра здымаў працэс згвалтавання на мабільны тэлефон.***

Міліцыянты адрэагавалі на заяву аб згвалтаванні, якое пакінула заплаканая дзяўчына. Па словах пацярпелай, прыкладна за паўгадзіны да таго, як яна прыбегла ў апорны пункт, яе згвалціў невядомы ў лясным масіве за будынкам ПА «Крышталь».

Супрацоўнікі міліцыі правялі адпрацоўку ў лесе, але не знайшлі там нікога, хто падпадаў бы пад апісанне гвалтаўніка. Тады праваахоўнікі вырашылі праверыць мясцовыя піцейныя ўстановы. У летняй кавярні каля магазіна «Чарнігаўскі» знайшоўся хлопец, які падыходзіў пад апісанне, дадзенае дзяўчынай. На апазнанні пацярпелая адразу пазнала яго.

Далейшае разбіральніцтва выявіла, што дзяўчыну згвалціў раней неаднаразова судзімы, у тым ліку і за забойства, грамадзянін. А затрыманы толькі здымаў тое, што адбываецца на камеру мабільнага тэлефона, не робячы спроб спыніць свайго сябра ці неяк дапамагчы дзяўчыне. У хуткім часе ўчастковыя затрымалі і самога гвалтаўніка - ён мірна спаў у сваёй кватэры ў стане сур'ёзнага алкагольнага ап'янення.

Як паведамляе УУС Гомельскага аблвыканкама, на першым допыце гвалтаўнік усё адмаўляў, але, убачыўшы зробленыя сябрам фатаграфіі, якія сталі для яго сюрпрызам, вымушаны быў прызнацца ў злачынстве. Зламысніку пагражае пазбаўленне волі на тэрмін да сямі гадоў.







*odsgomel.org*

## У Ветцы з асаблівай жорсткасцю забілі пенсіянерку за 50 кг бульбы

***Пракуратурай Гомельскай вобласці ў суд адпраўлена крымінальная справа па абвінавачанні жыхароў Веткі ва ўчыненні цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў.*** Раней неаднаразова судзімы 46-гадовы мужчына і 19-гадовы малады чалавек у снежні 2013 года ноччу пранiклі ў дом пенсіянеркі, жыхаркі Веткі. Спачатку абвінавачваныя ўкралі ў яе каля 50 кілаграмаў бульбы, схаваўшы яе за межамі дома. Скарыстаўшыся тым, што гаспадыня спіць, паўторна пранiклі ў яе дом. Гаспадыня, якая прачнулася, не магла аказаць супраціўленне злачынцам. Яе жорстка збілі, а затым задушылі, паведаміла старшы памочнік пракурора Гомельскай вобласці Надзея Самусева.

Для ўтойвання слядоў забойства абвінавачваныя падпалілі паперу ў печы на кухні і адкрылі вентылі чатырох канфорак газавай пліты. Для большай верагоднасці выбуху каля газавай пліты пакінулі ўключаным у сетку электрычны фен. Будучы ўпэўненымі ў тым, што адбудзецца выбух газу і пажар, абвінавачваныя імітавалі неасцярожнасць пацярпелай пры курэнні ў ложку, уставіўшы ў рот гаспадыні раскураную цыгарэту і пашкодзіўшы запаленай запалкай футболку, у якой была жанчына.

З дома злачынцы забралі медалі «30 гадоў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне», «Ветэран працы», нагрудныя значкі і розныя дробязі: бутэльку віна, цыгарэты, сонцаахоўныя акуляры.

Аднак пажар, у выпадку ўзнікнення якога маглі б пацярпець і суседнія дамы, не здарыўся.

Следчым камітэтам следчага ўпраўлення УСК па Гомельскай вобласці сабраныя доказы вінаватасці абвінавачваных. Ім ставіцца ў віну ўчыненне наўмыснага забойства з карыслівых пабуджэнняў, звязанае з разбоем, крадзеж, разбой, замах на наўмыснае знішчэнне або пашкоджанне маёмасці, утойванне злачынстваў.

*nn.by*

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Ліпень 2014»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2013"

Надрукавана на
папяровай фабрыцы
"ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinki.com
***facebook.com:*** spravavodstva
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com
Наш ***сайт***: gnavinki.com

M&S MEDIA